«НАШАЕ ЖЫЦЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№10(34) октябрь 2012

## ВІЦЕБЧУКІ АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

25 верасьня на дошках абвестак ля пад'ездаў дамоў, на прыпынках грамадзкага транспарту, у публічных месцах Віцебску зьявіліся налепкі з заклікам: "Свабоду Алесю Бяляцкаму!". Гэтак мясцовыя актывісты прыцягнулі ўвагу жыхароў гораду над Дзьвіной да праблемы палітвязьняў, а таксама павіншавалі выбітнага беларускага праваабаронцу зь юбілеем - у гэты дзень яму споўнілася 50 гадоў.




Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна", намінант на Нобэлеўскую прэмію міру **Алесь Бяляцкі** знаходзіцца за кратамі са жніўня 2011 году. Віцебскія актывісты шматкроць спрабавалі зладзіць пікеты салідарнасьці з праваабаронцам-палітвязьнем, але ўлады кожны з гэтых пікетаў забаранілі. Гэтым разам праваабаронцы, калегі Алеся Бяляцкага, і проста неабыякавыя людзі вырашылі, што няма сэнсу прасіць дазволу ва ўладаў, і правялі акцыю, прымеркаваную да яго дня народзінаў, не запытваючыся якіх-кольвек дазволаў.

## БАРЫСА ХАМАЙДУ АШТРАФАВАЛІ

Суд Чыгуначнага раёну Віцебску пакараў 15 кастрычніка вядомага віцебскага апазыцыянэра **Барыса Хамайду** штрафам у 2 базавыя велічыні за тое, што той бараніў герб Віцебскай вобласьці ад нападак загадчыцы прадуктовай крамы "Веста"… Справу разглядала судзьдзя **Алена Цыганкова.** Дарэчы, менавіта яна 3-га верасьня аштрафавала Хамайду на 400 тысяч рублёў за несанкцыянаванае пікетаваньне, калі той ля "Сіняга дому" ў Віцебску заклікаў байкатаваць парлямэнцкія выбары.




Гэтым разам суд каля паўгадзіны чакаў, пакуль зьявіцца пазоўнік **Натальля Беліжэнка** – загадчыца крамы №87 ААТ "Веста" (вул. Леніна, 28), што месьціцца ў тым самым "Сінім доме". Судзьдзя Цыганкова паведаміла, што позву ў суд пацярпелай даслалі, і прапанавала пачаць разгляд справы безь яе. "Незалежнага суду няма, суд нелігітымны, але… разглядайце", – адрэагаваў Хамайда. Ён адмовіўся знаёміцца з пратаколам, заявіўшы, што там адна хлусьня.

Судзьдзя Цыганкова абвесьціла, што Хамайда падвяргаецца штрафу ў памеры дзьвюх базавых велічынь (200 тыс. рублёў) за парушэньні арт. 17.1 КоАП. Хамайда заявіў у судзе, што не зьбіраецца ані абскарджваць рашэньне суду, ані выплачваць штраф. І ў прысутнасьці судзьдзі папрасіў загадчыцу прадуктовай крамы наступным разам адразу выклікаць міліцыю, а не чыніць супраць яго незразумелых правакацыяў.

## АБЛАСНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ РУХУ "ЗА СВАБОДУ"

У Віцебску прайшла абласная канфэрэнцыя руху "За Свабоду", у якой узялі ўдзел сябры руху з усіх рэгіёнаў вобласьці. Абласны каардынатар **Хрыстафор Жаляпаў** распавёў прысутным пра дзейнасьць арганізацыі за апошні пэрыяд. Затым удзельнікаў канфэрэнцыі вітаў намесьнік старшыні руху **Юры Губарэвіч.**

Гарачая дыскусія ўзьнікла падчас абмеркаваньня стратэгіі далейшай працы руху на Віцебшчыне. Асабліва вострымі былі спрэчкі наконт удзелу ў прэзыдэнцкіх выбарах 2015 году і вылучэньня адзінага кандыдата ад апазыцыі. Таксама ўдзельнікі канфэрэнцыі абралі сваіх дэлегатаў на нацыянальную справаздачна-выбарную канфэрэнцыю.

http://vitebskspring.org/be/news/1112

http://www.youtube.com/watch?feature=player_embedded&v=aFMGh_WzpFA

# КХП БНФ РЫХТУЕ Ў ВІЦЕБСКУ ШЭСЬЦЕ І МІТЫНГ

**Актывісты Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ маюць намер зладзіць 7 лістапада ў Віцебску вулічнае шэсьце і пікет.**

Адпаведная заява пададзеная імі ў віцебскі гарвыканкам. Мэта меркаваных масавых мерапрыемстваў: распавесьці жыхарам гораду пра згубную ролю камуністычнай ідэалёгіі для разьвіцьця Беларусі, пра злачынную дзейнасьць камуністаў па зьнішчэньні нацыянальнай культуры, мовы і самаідэнтычнасьці беларускага народу.

На думку аднаго з заяўнікаў акцыі **Яна Дзяржаўцава**, у краіне не павінна існаваць такога сьвята, як 7 лістапада: "У 1917 годзе банда злачынцаў-тэрарыстаў захапіла ўладу збройным шляхам у Расеі і Беларусі. Бальшавікі на штыках прынесьлі сваю бандыцкую ўладу ў Беларусь. Забілі некалькі мільёнаў беларускіх грамадзян. Тое, што ўчынілі бальшавікі, можна параўнаць толькі з фашысцкай навалай. Сьвяткаваць 7 лістапада, як зараз гэта робіць сучасная ўлада, могуць толькі сапраўдныя камуна-фашысты!" - сьцьвярджае Ян Дзяржаўцаў.

http://vitebskspring.org/be/news/1126

# У ВІЦЕБСКУ ГРАФІЦІ: «СПЫНІЦЕ ТЭРОР»

**У самых людных месцах горада сустракаецца зроблены праз трафарэт надпіс «Спыніце тэрор! Свабоду Дашкевічу!».**




Нагадаем, што сёньня ў Мазырскай калоніі адбудзецца выязное пасяджэнне суда над палітвязнем — чарговае. Лідару «Маладога фронту» могуць змяніць пакаранне на суравейшае. «Гэта звязана з тым, што Зьмітра Дашкевіча прызналі злосным парушальнікам рэжыму», — паведаміла намесніца старшыні «Маладога фронту» **Наста Палажанка**, нявеста палітвязня.

Яна дадала, што актывіст не мог стаць злосным парушальнікам рэжыму, бо адразу па прыбыцці ў выпраўленчую калонію № 20 Мазыра быў змешчаны ў штрафны ізалятар, а затым — у памяшканне камернага тыпу. «Дашкевіча чакае яшчэ адзін пакутлівы этап. Я думаю, што яго перавядуць альбо ў турму ў Жодзіна, альбо ў Гродне», — выказала здагадку Наста Палажанка.

Лідар Маладога Фронту паступіў у мазырскую калонію 19 верасня. Праз два дні ён абвясціў галадоўку ў сувязі з «нялюдскімі паводзінамі адміністрацыі калоніі, у тым ліку яе начальніка **Юрыя Збароўскага**». Пасля пераводу 4 кастрычніка ў памяшканне камернага тыпу Дашкевіч спыніў галадоўку, патлумачыўшы гэта тым, што стаўленне адміністрацыі калоніі да яго «кардынальна змянілася ў лепшы бок».

Зміцер Дашкевіч і яго паплечнік **Эдуард Лобаў** былі затрыманыя напярэдадні апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Дашкевіча і Лобава палітычнымі вязнямі.

Чытаць цалкам http://nn.by/?c=ar&i=82616

# АКТЫВІСТЫ АДВЕДАЛІ МЕМАРЫЯЛ КАЛЯ ПАЛЯЁЎ

**Пад гэтай вёскай каля Віцебска ствараецца самаробны мэмарыял, якім апякуюцца прадстаўнікі розных апазыцыйных партый і рухаў.**




За некалькі гадоў на ўзьлеску ўсталявалі некалькі крыжоў, якія добра відаць з аўтадарогі Р21, якая вядзе зь Віцебску ў бок Лёзна і Смаленску.

**Барыс Хамайда** і **Аляксандар Салаўян** прыехалі, каб пафарбаваць апошні крыж, усталяваны тут улетку. **Кастусь Смолікаў** і яшчэ некалькі сяброў Партыі БНФ прыбіралі сьмецьце ля крыжоў ды вырашалі, якім чынам самаробны мэмарыял можна добраўпарадкаваць далей. Верагодна, неўзабаве на месцы расстрэлаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій зьявіцца і мэмарыяльны камень. Цягам апошніх гадоў віцебскія актывісты ня толькі прыбіралі гэтае жалобнае месца, дзе ў 1930-50-я гады расстрэльвалі мірных грамадзянаў. Яны зьбіралі аповеды сьведкаў — старажылаў тутэйшых мясцін, і неаднаразова спрабавалі ініцыяваць тут навуковыя досьледы. Зьвярталіся і да мясцовых уладаў — каб надаць самаробнаму мэмарыялу належны статус або нават стварыць тут больш грунтоўны помнік. Але гэтыя ініцыятывы пакуль так і застаюцца на ўзроўні прапаноў, падтрымаць іх дзяржаўныя структуры ня хочуць.

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# ПІСЬМЕННІКІ СУСТРЭЛІСЯ З ГЛЫБАЧАНАМІ

**Пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка сустрэліся з чытачамі ў Глыбокім.**



Пісьменнікі Васіль Якавенка і Анатоль Астапенка прадставілі свае творы глыбоцкім чытачам. Сустрэча адбылася 6 кастрычніка на офісе выдавецтва "Прэфект-інфо".

Перад мерапрыемствам арганізатары бедавалі: ці збяруцца людзі на прэзентацыю? Прыйшло сямнаццаць чалавек, зрэшты, болей людзей не змясціліся б у памяшканні.

Васіль Якавенка прадставіў свой раман-трылогію "Пакутны век". Вялізны, на 896 старонак, мастацкі твор прадстаўляе шлях беларускай нацыі ў XX стагоддзі – ад Першай Сусветнай вайны і да Лукашэнкі. Героі трылогіі – гістарычныя асобы, дзеячы нацыянальнага руху і простыя беларусы.

Адзін эпізод раману адбываецца ў Глыбокім – аўтар апісаў зняволенне навукоўца **Барыса Кіта** ў камеры смяротнікаў падчас нямецкай акупацыі. Кожны вечар у камеру заходзіў гестапавец і называў прозвішчы тых, каму ісці на расстрэл. За Барыса Кіта заступіліся сябры, і праз месяц яго адпусцілі.

Васіль Якавенка не шкадаваў словаў, каб падкрэсліць унікальнасць сваёй працы. "Такога твора ў беларускай літаратуры яшчэ не было", - кажа аўтар. Зрэшты, з гэтым сцверджаннем пагаджаюцца многія літаратуразнаўцы.

Анатоль Астапенка прадставіў чытачам кнігу "Игде зродилися иускормлены суть по Бозе". У загаловак вынесеная вядомая цытата з прадмовы Францішка Скарыны да біблійнай кнігі Руф. У 734-старонкавым выданні аўтар выказвае свой погляд на беларускую нацыю – нацыянальную ідэю, нацыянальную гісторыю, нацыянальнае мастацтва.

Глыбачанін **Генадзь Плавінскі** спытаў у Астапенкі, як можна ў двух словах выказаць беларускую нацыянальную ідэю. Аўтар адказаў, што найбольш кароткую і змястоўную яе фармулёўку даў **Павал Севярынец** – "Люблю Беларусь".

Другі твор, якую прадставіў Анатоль Астапенка – "Сіняя кніга беларускага алкаголіка", напісаная пад псеўданімам Антон Кулон. У выданні сабраныя гісторыі беларускіх мастакоў, музыкаў, навукоўцаў, якія спіліся і рана пайшлі з жыцця. Сам аўтар дзесяць год таму кінуў піць, і дзеліцца сваім досведам пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці.

Творчасць Васіля Якавенкі і Анатоля Астапенкі зацікавіла глыбачанаў. Кнігі каштавалі нядорага, людзі ахвотна іх ахвотна набывалі, прасілі ў аўтараў аўтографы.



На жаль, такіх вартых выданняў няма ў большасці беларускіх кнігарняў і бібліятэкаў. Дзяржаўная палітыка, якая дзеліць пісьменнікаў на "сваіх" і "чужых", робіць аўтараў і іх творы малавядомымі і цяжкадаступнымі.

Кастусь Шыталь

# МАСТАК АХВЯРУЕ КАРЦІНЫ НА РЭСТАЎРАЦЫЮ

**Мастак Мікола Купава вырашыў прадаць каля 20 сваіх прац. Грошы за іх ён хоча перадаць на рэстаўрацыю аршанскага Сьвята-Пакроўскага кляштара, помніка архітэктуры 18 стагодзьдзя.**

Мікола Купава зьбіраецца бліжэйшым часам наладзіць продаж карцін праз інтэрнэт. Зараз ён шукае спэцыялістаў, якія дапамаглі б яму наладзіць такі інтэрнэт-аўкцыён. Спадар Купава спадзяецца, што ягоная акцыя дапаможа пачаць збор сродкаў на аднаўленьне помніка віленскага барока — Сьвята-Пакроўскага кляштара — у Воршы, на ягонай радзіме:

«У Воршы гэта адзіны вельмі важны архітэктурна-гістарычны аб'ект. Усё астатняе было зьнішчана ў 60-я гады. Прытым на маіх вачах бурылі ў 1957-59гадах і аж да 1968 году, і потым яшчэ. Засталіся толькі муры кляштара, і іх трэба ўратаваць, таму што яны ў кепскім, аварыйным стане».

Мікола Купава гатовы ахвяраваць на аднаўленьне кляштара свае працы з аршанскімі краявідамі, у тым ліку і самога помніка, афорты паводле твораў Караткевіча, творы, прысьвечаныя паўстаньню Кастуся Каліноўскага, Аршанскай бітве.

«У мяне шмат твораў, і я спадзяюся, што калі ўсё гэта пойдзе, то падключацца і іншыя мастакі. Мы рэальна можам на гэты працэс паўплываць, і гэта будзе пачатак, бо нічога падобнага там не рабілася, дый агулам у Беларусі».

Валер Каліноўскі, "Радыё Свабода"

# НАВУКОЎЦЫ ЗЬВЯРНУЛІСЯ ДА КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ

**Лідэры Руху «Навукоўцы за бязьядзерную Беларусь» ў адкрытым лісьце заклікаюць прэзыдэнтаў Беларусі, Літвы і Расеі адмовіцца ад будаўніцтва атамных станцыяў.**

«Будаўніцтва АЭС — гэта чапляньне за мінулае. Неабходна неадкладна згарнуць усе пляны разьвіцьця атамнай энэргетыкі і спыніць будаўніцтва атамных станцый. Ужо сёньня існуе шэраг тэхналёгій, здольных забясьпечыць энэргетычныя патрэбы ўсяго чалавецтва на неаглядныя часы. Выкарыстаньне гэтых тэхналёгій — рывок у будучыню, умова разьвіцьця. Невыкарыстаньне — гарантыя непазьбежнага адставаньня ад найбольш разьвітых краін»,— пішуць прэзыдэнтам навукоўцы **Юрый Варонежцаў, Георгій Лепін, Ягор Фядзюшын.**




Яны падрабязна распавядаюць пра праблему забруджваньня навакольнага асяродзьдзя атамнымі станцыямі, кажуць пра небясьпеку аварыяў, спасылаюцца на досьвед Чарнобыля і Фукусімы, пратэстуюць супраць перасьледу актывістаў антыядзернага руху:

«Нельга пабудаваць бясьпечную атамную энэргетыку на базе рэактараў, якія астуджаюцца вадой. Расійскі акадэмік П.Л. Капіца сфармуляваў гэтую думку коратка: «АЭС — гэта атамная бомба, якая дае электрычнасьць».

# ВЯРТАННЕ ГЕНЕРАЛА ВАЙЦЯХОЎСКАГА

**Гэтай восенню ў Беларусь вярнуўся яшчэ адзін наш славуты суайчыннік, імя якога за мяжой вядомае больш, чым тут. Вярнуўся амаль праз стагоддзе пасля таго, як у апошні раз бачыў беларускія краявіды, і, на жаль, амаль праз 6 дзесяцігоддзяў пасля сваёй смерці...**

У Нацыянальным гістарычным музеі адбылася выстава, прысвечаная **Сяргею Вайцяхоўскаму** — генералу дзвюх армій, народжанаму на Віцебшчыне. Выставу адкрывалі паслы Чэхіі і Славакіі, а ладзілі яе беларусы **Аляксандр і Іна Радаевы,** якія самі толькі 2 гады таму ўпершыню пра Вайцяхоўскага пачулі. Аднак гэтыя два гады яны свядома прысвяцілі аднаўленню гістарычнай справядлівасці. Выстава стала толькі пачаткам...

Гэты чалавек стаяў каля вытокаў стварэння і станаўлення чэхаславацкай арміі ў 1920-1930-х гадах. Таму чэхі вельмі яго шануюць. У 1997 годзе яны ўзнагародзілі яго вышэйшай дзяржаўнай узнагародай — Ордэнам Белага Льва, пасмяротна. Акрамя таго, ён здолеў у неверагодных умовах вывесці астаткі белай арміі ў Забайкалле, чым выратаваў тысячы жыццяў. Але самае галоўнае — ён выконваў свой доўг перад той Айчынай, на вернасць якой прысягаў, да канца, таму нам, беларусам, несправядліва не ведаць яго імя...

Ва ўсіх дакументах яго нацыянальнасць — "рускі". Ён нарадзіўся ў дваранскай сям'і з абрусеўшага польскага роду ў Віцебску, хрышчоны быў у праваслаўі. Скончыў рэальнае вучылішча ў Вялікіх Луках і Канстанцінаўскае артылерыйскае вучылішча ў Пецярбургу. Пачаў службу з ўдзелу ў руска-японскай вайне, потым паступіў у Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба ў Пецярбургу, пасля заканчэння якой размеркаваўся ў Маскоўскую акругу, дзе ў 1913 годзе скончыў яшчэ і авіяцыйную школу.



Ён быў з першай сотні рускіх лётчыкаў, і хоць потым абраў для сябе службу страявога афіцэра, пацвердзіў права на нашэнне значка ваеннага лётчыка праз дзесяцігоддзе ў чэхаславацкай арміі. Гэта ж тычыцца і знака акадэміі Генеральнага штаба, які заўсёды быў у яго як на расійскім, так і на чэхаславацкім мундзіры.

Вольга Мядзведзева

# У ВІЦЕБСКУ ПРЭЗЭНТАВАЛІ ОФІС ДЭПУТАТАЎ ГД

**Прэзэнтацыя адбылася 11 кастрычніка. Офіс дэпутатаў Грамадзянскага Дагавору – першае зьявно ў новым праекце кампаніі «Гавары праўду», заявілі ініцыятары адкрыцьця офісу.** Усяго ў Беларусі будзе адкрыта 18 гэткіх офісаў. Яны будуць працаваць у тых рэгіёнах, дзе кампаніяй «Гавары праўду» былі падтрыманыя кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 5-га склікання. Офіс дэпутатаў Грамадзянскага Дагавору ў Віцебску пакуль што складаецца з трох удзельнікаў электаральнай кампаніі – **Лідзіі Сагідулінай, Сяргея Парсюкевіча і Аляксандра Мікуліна.** Падрабязней пра мэты і задачы Офісу распавёў адзін з кіраўнікоў кампаніі «Гавары праўду» **Сяргей Вазьняк.**

http://vitebskspring.org/be/news/1103